*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

№ 39 (621)

Чацвер, 4 сакавіка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




## Председатель Центральной комиссии по выборам президента Республики Беларусь Виктор Гончар и член комиссии Сергей Ободовский проводят в арестантской камере столичного приемника-распределителя голодовку.

## Политическое преследование законопослушных граждан продолжается. Штраф в 35 миллионов наложен на члена Центральной комиссии, депутата Минского городского Совета Олега Волчика. Осталось лишь четверо нерепрессированных членов комиссии.

**Пазіцыя**

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы!



Год 1999-ы, які мы зусім нядаўна сустракалі, імпэтна набірае абароты. Ужо не за гарамі і вясна — час, які звычайна нясе людзям светлыя, радасныя надзеі. Ці прынясе ён іх сёлета — адзін Бог ведае. Пакуль што — усе прагнозы нічога добрага не абяцаюць. Настройвацца на святочны лад, весяліцца і цешыцца, радуючыся жыццю, дастатку і дабрабыту, не выпадае. На жаль, ні для весялосці, ні для суцяшэння падстаў у нас няма. Пагалоўнай бальшыні грамадзян краіны стала вельмі цяжка жыць і з кожным днём становіцца яшчэ цяжэй. Рэзка абазначылася сацыяльнае расслаенне насельніцтва і працягвае паглыбляцца далей. Тыя, што безаглядна рабуюць краіну, раскрадаюць скарбы народа, або займаюцца разбоем і рабаваннем людзей, — яны раскошнічаюць, жывуць прыпяваючы. А тыя, каму сумленне не дазваляе ні рабаваць, ні красці, перабіваюцца з бульбы на квас, а многія, асабліва састарэлыя пенсіянеры, шукаюць што-небудзь прыгоднае для спажытку на сметніках. Канешне ж пра гэта ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі не паведамляецца, наадварот, там кожны дзень ідуць аптымістычныя рэляцыі пра значныя вытворчыя поспехі і дасягненні. Да якога цынізму, а, можна сказаць, і да якога абсурду дайшлі гэтыя нашыя СМІ ў апраўданні таго, што апраўдаць нельга, сведчыць нядаўняя заява з тэлеэкрана наступнага зместу: "Канешне, сёння нам жыць цяжка, але ж не так, як было ў блакадным Ленінградзе. Так што трэба цярпець...". Адным словам: радуйцеся, людзі! З голаду — сотнямі тысяч, як калісь у Ленінградзе, — мы яшчэ, дзякаваць Богу, не паміраем.

І ўсё гэта — на фоне жахлівай чарнобыльскай трагедыі, ад чаго яшчэ больш горка і балюча. Чарнобыль фізічны, ад якога вымірае нацыя, ад якога ўсё больш нашых маладых жанчын пакутуюць бяздзетнасцю, няйначай у сілу нейкага двайнога пракляцця, усё больш спалучаецца з Чарнобылем духоўным, які раз'ядае і мярцвіць душы. Дэмагогія, крывадушша і хлусня ў такой меры насычаюць грамадскую атмасферу ў краіне, што людзі ўжо канчаткова перастаюць верыць каму б то ні было, робяцца няздольнымі адрозніваць наогул, дзе праўда, а дзе ашуканства і фальш. Людзі трацяць маральную арыентацыю. Людзі не бачаць выйсця. І таму — у разгубленасці, нават у роспачы. На што спадзявацца? Чаго чакаць? Што адбываецца ў краіне?

Колькі гадоў назад у Беларусі паступова, але няўхільна і вельмі напорыста, гвалтоўна, жыццё пачало перайначвацца на нейкі недарэчны абсурдны лад, падганяцца пад нейкі нялюдскі, пачварны стандарт, дзе ўсё мераецца зусім не тымі меркамі, да якіх нармальны сучасны чалавек прывык; памалу-патроху сталі браць верх прымітыў і пошласць, прытворства і падман, жульніцтва і юродства, прэтэнцыёзнасць і пыха, ахламонства і дурнота. І ўсяго гэтага "дабра" стала так многа — наўкол і скрозь, так многа, што чалавек ужо не можа і выбавіцца з яго. Ён адчувае, што ўсё гэта ўцягвае і засмоктвае яго, што яшчэ трохі — і ён можа звар'яцець ад гэтага кашмару, ад гэтай пачварнай абсурднай рэальнасці. Уражанне — нібы ты жывеш у атмасферы нейкай усеахопнай татальнай хлусні, брутальнай палітычнай мімікрыі, грубай імітацыі служэння праўдзе і людзям.

Невыпадкова, што ў апошні час мы, нацыя такога трагічнага лёсу, робімся ў цывілізаваным свеце прадметам насмешак і анекдотаў. Наша імя становіцца ў самым горшым сэнсеназыўным у вуснах грамадзян блізкага і далёкага замежжа. Нават у парламентах брацкіх славянскіх краін гучаць галасы накшталт: "Дык што — будзем апускацца да таго, да чаго апусціліся беларусы?". Нас успрымаюць як нацыю, якая не можа, не здольная паглядзець на сябе збоку, як нацыю, пазбаўленую пачуцця гонару і годнасці, як нацыю дзікуноў і манкуртаў, што выракаюцца не толькі сваёй гістарычнай памяці, але нават сваёй роднай мовы! Мовы — якая ёсць не толькі душа народа, аснова нацыянальнай культуры, але ёсць і галоўная гарантыя захавання нацыі.

А між тым у Беларусі ёсць усе падставы для таго, каб заняць годнае месца ў супольнасці краін і народаў свету. Па-першае, ёсць глыбокія, магутныя традыцыі нацыянальнай духоўнасці і культуры, ёсць незлічоныя мастацкія скарбы, ёсць волаты духу, у якіх увасоблены творчы геній народа — ад Скарыны і Сапегі да Купалы і Коласа, да Багдановіча і Гарэцкага. Па-другое, ёсць не з горшых стартавы ўзровень эканомікі, ёсць прыродныя і інтэлектуальныя рэсурсы, ёсць геапалітычныя выгады. Дык у чым жа справа? Чаму Беларусь па галоўных эканамічна-сацыяльных паказчыках — на апошнім месцы ў Еўропе? Таму, відавочна, што наш народ або не хоча, або не можа гэтыя магчымасці выкарыстаць. Паколькі паверыць у першае нельга, то застаецца думаць пра другое: ён не можа гэта зрабіць. Дакладней — яму не даюць гэта зрабіць. Хто не дае? Зразумела — хто: тыя сілы, якія і давялі яго да жабрацкага стану, а дзяржаву ператварылі ў пасмешышча.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## Лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) абраны старшынёй Усходнееўрапейскага сацыял-дэмакратычнага форума

Прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і Беларускай партыі працы вярнуліся з Масквы, дзе бралі ўдзел ва ўстаноўчай канферэнцыі Усходнееўрапейскага сацыял-дэмакратычнага форуму.

Як паведаміла прэс-служба БСДП (НГ), на форуме прысутнічалі члены сацыял-дэмакратычных партый Расіі, Грузіі, Балгарыі і Казахстана. Акрамя таго, аб падтрымцы аб'яднальнай ідэі форуму заявіў яшчэ шэраг партый, якія па розных прычынах не змаглі прыехаць у сталіцу Расіі, — гэта сацыял-дэмакратычная партыі Украіны і Малдовы, Дэмакратычная партыя працы Літвы, Сацыял-дэмакратычная працоўная партыя Латвіі і партыя Дашнакцуцюн (Арменія).

Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі пытанні каардынацыі дзеянняў сацыял-дэмакратычных партый Усходняй Еўропы па ўмацаванні дэмакратыі і законнасці, абароне правоў і свабод чалавека, паскарэнні эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу. Вынікам двухдзённай працы стала прыняцце Дэкларацыі аб стварэнні форуму і прынцыпах яго дзейнасці, падпісанне пратакола аб стаўленні да прафсаюзнага руху, а таксама абранне кіруючых органаў аб'яднання.

Старшынёй форуму абраны лідэр БСДП (НГ) Мікалай Статкевіч, генеральным сакратаром — член прэзідыума Сацыял-дэмакратычнай партыі Расіі Павел Кудзюкін. Намеснікамі М.Статкевіча абраны старшыні сацыял-дэмакратычных партый Грузіі і Казахстана. Яшчэ адзін намеснік — ад Сацыял-дэмакратычнай партыі краін Балтыі — будзе абраны на наступным пасяджэнні форуму, што пройдзе сёлета 28—29 мая.

Мяркуецца, што на будучай сустрэчы прадугледжваецца разгляд пытанняў, якія датычацца стварэння аналагічных міжнародных жаночых і маладзёжных арганізацый, а таксама перспектывах развіцця сацыял-дэмакратыі ва Усходняй Еўропе.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Беларускі Хельсінкскі камітэт лічыць недапушчальным паблажлівае стаўленне беларускіх уладаў да дзеючых у рэспубліцы расійскіх фашыстаў

"Праследаванні ўдзельнікаў мірнай дэманстрацыі ў Мінску супраць фашызму, паблажлівае стаўленне праваахоўных органаў Беларусі да фашысцкіх акцыяў сведчаць пра тое, што палітыка дзяржавы накіравана на падтрымку дэструктыўных ідэалогіяў, якія прыводзяць да пабудовы фашысцкай дзяржавы". Такую заяву распаўсюдзіў Беларускі Хельсінкскі камітэт пасля правядзення ў мінулую суботу ў беларускай сталіцы антыфашысцкай акцыі, якая стала рэакцыяй на нядаўняе збіванне ў цэнтры Мінска членамі Рускага нацыянальнага адзінства актывістаў Хартыі'97. На думку беларускіх праваабаронцаў, падобнае стаўленне ўладаў да таго, што адбываецца, асабліва недапушчальна на Беларусі, якая страціла ў выніку камуністычнага і фашысцкага генацыду некалькі мільёнаў сваіх грамадзянаў.

Мінгарвыканкам санкцыянаваў антыфашысцкую акцыю, якую наладзілі праваабарончыя арганізацыі — БХК, Хартыя'97 і "Вясна-96", аднак дазволіў удзельнікам шэсця рухацца толькі па тратуарах. Падобны рух па галоўнай вуліцы Мінска — праспекце Францыска Скарыны — быў немагчымы, паколькі гарадскія службы не прыбралі з вуліцаў гурбы снегу. Над тратуарамі на бліжэйшых дамах віселі вялізныя ледзяшы і снег, што рабіла небяспечным рух людзей па пешаходнай частцы вуліцы. Удзельнікі акцыі выйшлі на праезную частку і занялі адну з васьмі дарожных палосаў. У выніку арганізатары і ўдзельнікі мітынгу былі абвінавачаныя ў тым, што перакрылі рух на праспекце імя Францыска Скарыны.

Пасля мітынгу было затрымана шэсць яго арганізатараў і ўдзельнікаў. Члена БХК Валерыя Костку двойчы спрабавалі затрымаць на міжнароднай канферэнцыі "Судовая абарона правоў чалавека", якая праходзіла ў гэты час у Мінску. Некалькі ўдзельнікаў мітынгу схаваліся ад праследавання "людзей у цывільным" у памяшканні місіі АБСЕ ў Мінску.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

**Демократия по-белорусски**

## "Статусу" ставят ультиматум

В Минском городском Совете депутатов состоящая из 10 человек группа "Статус" постоянно вызывала раздражение городской "вертикали". И чему тут удивляться? Именно эта группа, в которую вошли люди с разными политическими взглядами, но придерживающиеся твердого мнения, что все должно делаться исключительно в рамках закона, была как бельмо на глазу у официальных властей. Ведь именно "Статус" инициировал заслушивание на сессии самых неприятных и неудобных для властей вопросов. А посему "вертикаль" решила на новых выборах избавиться от неудобных депутатов.

Между тем семь из десяти депутатов уже приняли решение баллотироваться в горсовет вторично. Среди них и председатель постоянной депутатской комиссии по гласности, связям с общественными организациями и правопорядку Владимир Довженко. Этого человека многие хорошо знают в лицо, поскольку Владимир Иванович — ведущий одной из самых популярных спортивных программ Белорусского телевидения "Силач".

За два года, которые он отдал работе в Охотском избирательном округе №4, Владимир Довженко успел сделать очень многое. И подтверждением тому — благодарные слова избирателей. Они охотно подписывали листы в поддержку повторного выдвижения Владимира Ивановича. 132 учителя из двух школ, расположенных в этом районе, единогласно выдвинули кандидатуру В.Довженко в качестве претендента на депутатский мандат.

Но это очень не нравится власть предержащим. По словам Владимира Довженко, на днях его пригласил к себе главный "вертикальщик" района Вячеслав Юхнович. Последнему не понравилось, что кандидат в депутаты решил заявить о себе двумя способами: сбором подписей и коллективным выдвижением. Поскольку это не противоречит закону, Довженко категорически отказался "откреститься" от инициативы педагогов. В результате, по словам кандидата в депутаты, глава районной "вертикали" пообещал сам побеседовать с директорами школ. Мол, они Вас, Владимир Иванович, не совсем поняли.

24 февраля на сессии Минского горсовета Владимир Довженко сделал депутатский запрос в три адреса: на имя сессии, председателя горсовета Владимира Попковского и председателя горисполкома Владимира Ермошина. Депутат попросил оградить его от нападок со стороны Юхновича, который, по мнению Довженко, походя нарушает законы о выборах и статусе депутата местного Совета.

Кстати, перед началом сессии к председателю группы "Статус" Игорю Радюкевичу нагрянула проверка из торговой инспекции. Странное совпадение?

Поговаривают, что заместителю председателя горисполкома Виктору Чикину дана команда "сверху" любым способом отлучить от депутатских мандатов членов группы "Статус". Похоже, что эта операция набирает темп.

**Владимир КОРЗУН.**

**Вокруг сенсации**

## О том, что армянские ученые нашли лекарство против СПИДа, белорусские врачи пока не знают

В один из недавних дней мир всколыхнула сенсация: в Армении якобы полностью вылечили 13 больных СПИДом. Об этом заявил вице-президент Национальной академии наук Армении Эмиль Габриелян. Он также сообщил, что препарат, с помощью которого лечат СПИД, был создан армянскими учеными всего за год и уже запатентован в Европе. Правда, официально чудо-лекарство еще не зарегистрировано. По другим источникам, его создал ученый, долгое время работавший на Востоке, а затем вернувшийся в Армению уже с чудесным препаратом. Имя его не разглашается в коммерческих интересах государства.

Врачи Белорусского республиканского центра профилактики СПИДа ничего конкретного о новом лекарстве пока сказать не могут. Собственно, не владеют информацией о панацее от СПИДа и специалисты Международной программы ООН/СПИД в Женеве. По словам главного врача центра Валерия Глазовского, все будут только рады, если действительно одним уколом армянского суперлекарства можно будет вылечить больного СПИДом. Но... К сожалению, слухи об открытии лекарства против чумы двадцатого века возникают чаще, чем меняется направление ветра...

В мире зарегистрировано более 18 миллионов ВИЧ-инфицированных, из них около 2 миллионов — дети. Специалисты считают, что человек, узнавший о своей зараженности, переносит удар, равный по тяжести стрессу, который испытывает заключенный, идущий на смертную казнь. Велика ответственность тех, кто пообещает смертнику счастье свободы...

**Марина КОКТЫШ.**

### Ільняны алей перастане быць дэфіцытам

Не пазней за 2000 год на прылаўках нашых магазінаў з'явіцца дэфіцытны цяпер ільняны алей, вядомы сваімі многімі карыснымі ўласцівасцямі. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў навукова-вытворчым аб'яднанні "Лён Беларусі", яго вытворчасць прадугледжана сумеснай беларуска-расійскай праграмай па развіцці льнаводства. У канцы мінулага года яна была адобрана Выканкамам Саюза Беларусі і Расіі. На рэалізацыю праграмы з бюджэтаў абедзвюх дзяржаў прадугледжана выдзяленне неабходных фінансавых сродкаў.

**Алег ШВЕДАЎ, БелТА.**

### Надвор'е

4 і 5 сакавіка на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 4-га — на значнай частцы тэрыторыі ападкі, пераважна дождж, месцамі туман; 5-га — невялікія ападкі. Вецер паўднёва-заходні, паўднёвы, 6—11 м/с. Тэмпература паветра 4-га ўначы — -1...+4, удзень — +2...+7; 5-га ўначы — +1...+6, удзень — +6...+11.

### Есть предложения? Присылайте...

В Палате представителей Национального собрания Республики Беларусь в мае 1999 года состоятся слушания по теме *"О создании конкурентоспособной продукции на основе использования высоких наукоемких, ресурсо- и энергосберегающих технологий и роли в этом процессе академической, отраслевой и вузовской науки"*.

Просим граждан направлять конкретные, ясно изложенные и реальные для их реализации предложения по адресу: **220010, г.Минск, Дом правительства, Палата представителей, Игнатищеву.**

**Р.ИГНАТИЩЕВ, зам.председателя Комиссии, заслуженный деятель науки Республики Беларусь.**

## "Беларусь — наш беларускі дом" — такі дэвіз перадвыбарчай кампаніі лідэра БНФ Зянона Пазьняка

У штаб-кватэру Беларускага народнага фронту паступіў зварот лідэра БНФ Зянона Пазьняка "Беларусь — наш беларускі дом". Дакумент адпраўлены з Варшавы, дзе цяпер знаходзіцца З.Пазьняк. Мяркуецца, што гэты зварот будзе раздавацца грамадзянам членамі ініцыятыўнай групы па вылучэнні Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты, выбары якога прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 траўня г.г.

У дакуменце, поўны тэкст якога мае БелаПАН, З.Пазьняк сцвярджае, што маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары з'яўляюцца канстытуцыйнымі з пункту гледжання права і не супярэчаць закону. Сваё рашэнне аб удзеле ў выбарах лідэр БНФ матывуе палітычнай неабходнасцю і сапраўднай перамогай на іх. У звароце З.Пазьняк таксама дае аналіз цяперашняй сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь і сцвярджае, што краіна павінна вярнуцца да традыцыйных беларускіх духоўных каштоўнасцяў, упэўненасці ў сабе і "праўды, выпрабаванай гісторыяй". На ягоную думку, самым вялікім нацыянальным дасягненнем Беларусі з'яўляецца суверэнная дзяржава і магчымая страта яе незалежнасці "ёсць страта саміх сябе".

Вялікая ўвага ў дакуменце нададзена эканамічным пытанням. Лідэр БНФ упэўнены, што заможная краіна — тая, у якой багатыя людзі. "Наша эканамічная палітыка будзе накіравана на тое, каб беларус багацеў", — гаворыцца ў пасланні Зянона Пазьняка.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

# Ложь недели

## (версия БАМП)

*Сразу просим прощения у читателей: из-за перегруженности газеты мы не смогли очередную подборку "Ложь недели" поместить во вчерашнем номере. С удовольствием делаем это сегодня.*

А прошедшая неделя, как можно было и ожидать, прошла под знаком президентской звезды. Глава государства был вне конкуренции.

1.На встрече с тружениками Дзержинского района президент явно хотел понравиться прекрасной половине рода человеческого. А посему как личный успех преподнес "мощный прирост рождаемости в прошлом году".

Выражаясь языком дипломатов, это утверждение не соответствует действительности. **Справка БАМП:** в 1995 году число родившихся в расчете на 1000 человек составило 9,8, в 1996 — 9,3, в следующем 8,8 и в прошлом году 9,2. Смертность за эти годы из расчета на 1000 человек составила: 1995 — 13,5, 1996 — 13,0, 1997 — 13,4, прошлый год 13,5. Таким образом, в годы правления Лукашенко продолжился процесс вымирания нации, и ни о каких всплесках рождаемости не может идти речь.

Специалисты отмечают, что последствия бездарной социальной и экономической политики не сказались на планировании деторождения только двух категорий семей — многодетные неблагополучные и цыганские. У первых это вообще некое хобби, у других — дань традиции.

Не секрет, что спившиеся, морально разложившиеся "стахановцы-родители" производят на белый свет не менделеевых и эйнштейнов, а потенциальных обитателей специнтернатов. Процесс дебилизации страны стремителен, как спринтер на стометровке. Если к этому добавить, что ежегодно Беларусь покидают тысячи людей, то перспективы страны ужасны. Ведь уезжают не выпускники заведений для умственно-отсталых, а высококвалифицированные специалисты с дипломами лучших вузов страны. У больного общества не бывает здоровых правителей. Власть — в праздничном настроении. Эмигрирует не электорат президента. Беларусь в траурной косынке: умные, образованные приобретают билет в одну сторону, и она не уверена, вернутся ли они обратно.

Так что если вы, Александр Григорьевич, под ростом рождаемости имели в виду увеличение количества рождаемых, простите, дебилов, то это истинная правда. А женщины не стремятся в родильный дом. Ваша политика — лучшее контрацептивное средство против зачатия. От одного взгляда на ценники прерывается беременность.

Женщины волнуют президента, ядерное оружие — возбуждает. Без ядерного фугаса Лукашенко такой одинокий и беззащитный. Страсть к ракетам настолько сильна и необузданна, что даже волевой Александр Григорьевич не в силах ее контролировать. В минуты откровенного мыслевыделения президент обнажает свои мечты. Из президентских откровений можно предположить, что Григорьевич сначала хотел бы соединиться с ядерной ракетой СС-25, а потом уже с Российской Федерацией.

Скандальное заявление грохнуло и эхом отозвалось в столицах мира. Мы снова впереди планеты всей. Через день пришло прозренье. Президент оправдывался. И при этом снова говорил, мягко говоря, неправду. Лукашенко заявил, что "Беларусь — нейтральное государство" (телепрограмма "Рэзананс" от 28.02 1999 г.). Сенсация! Общеизвестно, что нейтральное государство не является членом военных блоков, союзов. Значит, Беларусь отказалась от пролонгации Ташкентского договора о коллективной безопасности. Значит, мы вышли из военного союза с Россией. Ура! Да здравствует Александр Лукашенко, самый миролюбивый президент оси Минск — Москва — Пекин.

...И снова жалкий лепет оправданья, словесная Ниагара и впадающая в нее река по имени Ложь.

Рецепт от лжи: не можешь говорить, читай по бумажке.

2. Вице-премьер Леонид Козик параллельно может претендовать на звание мистер "всё хорошо". Все его комментарии экономической ситуации сильно смахивают на сеансы Кашпировского и Чумака. Все нормально, всё контролируется. Минчане в феврале съели двухмесячную норму масла, поэтому наблюдаются некоторые перебои с сахаром, мясом, сметаной. Вице-премьер излучает удивительное хладнокровие и оптимизм. На прошлой неделе Козик заверил столичных жителей, что в течение двух дней проблемы обеспечения продовольствием будут полностью сняты. По прошествии трех дней после этого смелого заявления мы посетили 10 торговых точек столицы. Сахар отсутствовал во всех, яйцо присутствовало в одном магазине, сметана — в трех, мясо — в трех, кости — в семи, неприятный запах — в двух. Но неизменно полки всех торговых точек украшала водка, а возле магазинов тусовался местный краснолицый бомонд, живо обсуждающий идею возвращения ядерной бомбы в Беларусь.

Мы попросили прокомментировать угрозу вице-премьера Козика завалить всех минчан продуктами покупателей, отоваривающихся в универсаме с романтичным названием "Дрозды". Опрошено 25 человек. Настроение скорее предзабастовочное, нежели романтичное. Все опрошенные ответили по-Станиславскому: "Не верю!" При этом трое в качестве аргументации использовали ненормативную лексику, двое покрутили пальцем у виска, четверо возжелали посмотреть в глаза Леониду Петровичу, 12 пригласили вице-премьера посетить универсам "Дрозды", который вот уже несколько месяцев практически не функционирует. Как утверждают опрошенные, это причина того, что директор параллельно с ремонтом магазина благоустраивает свою квартиру-новостройку.

Очевидно, что Козик обманул не только минчан, но и главу государства. Он так и не выполнил президентское указание "обеспечить население страны нормальными человеческими яйцами". Спасибо перепелам.

3. В гонку за вождями государства включился блуждающий "форвард" подкаблучной журналистики Игорь Гришан. Последний сразил читателей "Народной газеты" сенсационным утверждением, что Запад "раскусил, кто есть "ху" и не желает участвовать в противозаконных акциях оппозиции". И скоро, дескать, у оппозиции "не останется ни одного более или менее солидного "покровителя". Какая трогательная забота г-на Гришана! Аж слезу прошибает. Но факты говорят об обратном. Из 54 государств-членов ОБСЕ Верховный Совет поддерживают 52 страны. Во-первых, демократические государства не интересуют акции оппозиции, но их очень волнует состояние законности и прав человека в Беларуси. По той простой причине, что это не белорусский вопрос, а обязанность Беларуси перед международным сообществом. В-третьих, господину-товарищу Гришану мы настоятельно рекомендуем изучить заявление пресс-службы Госдепартамента США. В нем черным по белому написано, что США рассматривает президентские выборы как законные, которые проводит легитимный Центризбирком.

**ИТОГО.** *Мы долго думали: так кто же стал лауреатом №1 нашей уже ставшей постоянной рубрики "Ложь недели" за февраль? Как ни крути, а на первое место выходит уважаемый Александр Григорьевич Лукашенко. Второе место жюри отдает Лидии Ермошиной, руководителю президентского Центризбиркома. Александр Зимовский, главный лукашенковский "резонатор", оказался на третьем месте.*

*Поздравляем!*

Пр. Архіпа, Багдана, Макара, Максіма, Філімона, Фядота, Яўгена.
К. Люцыі, Казіміра.

ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ МІЛІЦЫ

**75 гадоў** з дня нараджэння А. Ф. Коршунава (1924—1991), беларускага літаратуразнаўца.
**75 гадоў** з дня нараджэння (1924) Л. М. Ражанавай, артысткі балета, народнай артысткі Беларусі.

**САКАВІК**
**4**
**'99 ЧАЦВЕР**

Усход 6.52
Захад 17.53
Даўж. дня 11.01

Поўня
2 сакавіка
Захад 8.49
Усход 21.27

